Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.



# Беларуская Борць

Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

Адрас рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, вул. Каралеўская, 3-8. Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10-14 гадз.

Падпісная плата да канца году 2 зл. Заграніцу - ўдвая даражэй. Цана асобнага нумару - 50 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

№ 2 - 3. Вільня. Верасень - Кастрычнік 1 9 3 4 г. Год I.

## Аб Т-ве "ПЧАЛА".

Кожная галіна народнай гаспадаркі толькі тады можа разьвівацца і стацца паважным фактарам у жыцьці народу, калі для гэтага па першае маюцца адпаведныя кліматычныя і іншыя прыродныя варункі, а па другое - калі грамадзянства зьвернець на яе увагу і акружыць яе неабходнай апекай.

Кіруючыся вось гэтымі думкамі група працаўнікоў на ніве гаспадар...ярнула ўвагу на нашае пчалярства. Маючы ўсе прыродныя дадзеныя для свайго разьвіцьця, беларускае пчалярства, трэба прызнацца, да гэтага часу знаходзіцца ў першабытным стане. Аб рацыянальным вядзеньні пчалярскае гаспадаркі ў нас мала хто і думае, і наагул на пчалярства, за рэдкімі выняткамі, глядзяць не як на штось паважнае, але як на прыемную і мілую забаву. Каб адкінуць недамаганьні нашага пчалярства, паставіць яго на моцныя ногі і падняць на адпаведную вышыню і было заснована ў 1928 годзе Беларускае Коопэратыўнае Таварыства "Пчала".

Бы́ў адпаведны мамэнт, былі адпаведныя варункі і закладчыкі Т-ва спадзяваліся, што пастаўленае заданьне будзе лёгка і хутка выканана.

Прайшло шэсьць гадоў... Вы спытаецеся, што-ж за гэты час зроблена - Мусім шчыра прызнацца, што нічога. К пачатку 1934 году Т-ва, як і само пчалярства пазаставаліся у тым самым стане, ў якім былі і на пачатку 1928 году. Але вінаваты ў тым не Т-ва і ня тыя асобы, якія сталі на чале яго. Прычыны былі зусім іншага характару. Таварыства не магло стварыць нічога пазытыўнага, бо ўсю энэргію прыхлдзілася марнаваць на барацьбу з тымі варожымі стыхіямі, якія прасачываліся за ўсіх старон у нашае грамадзкае жыцьцё і перашкаджалі ўсякай творчай працы.

Хоць і ня творчая, але якаясьць праца была, а значыцца былі і выдаткі, а у выніку паўстае дэфіцыт, пакрыць які ня было магчымасьці.

І вось, калі замоўклі буры, перад нашым Т-вам, як і перад ўсімі іншымі беларускімі арганізацыямі паўстае пытаньне: як быць на далей, што рабіць. Адбыўшыся ў сакавіку сёлета Агульны сход рашуча адкінуў думку аб ліквідацыі і цьвёрда заявіў аб патрэбе захаваць т-ва і разьвіць яго ў напрамку ўсказаным у статуце.

Дзякуючы ахвярнасьці старых сяброў і прыяцеляў Т-ва, дэфіцыт быў пакрыты і Т-ва дзеля гэтага змагло нанова распачаць сваю працу.

На тым-жа сходзе была ўключана у круг дзейнасьці Т-ва і справа гадоўлі і гандлю мядова-лекарскімі і лекарскімі зёлкамі.

Плян працы на бліжэйшы час у галіне збору і гандлю зёлкамі абгавораны ў папярэднім нумары "Бел. Борці" і дзеля гэтага закранаць гэтае галіны ня будзем і пяройдзем да справу чыста пчалярскіх.

Тут перад Т-вам стаіць вялізарная праца. Трэба арганізаваць і наладзіць коопэратыўны збыт мёду і воску, бо толькі тады пчаляр атрымае поўную аплату сваей працы, якая дагэтуль распылялася па кішэнях розных пасярэднікаў і перакупшчыкаў; трэба арганізаваць прадукцыю вуль, гандаль пчалярскімі прыладамі і г.д. - ўсё гэта з галіны чыста гандлёвай.

У галіне прапаганды ідэі пчалярства і рацыянальнага вядзеньня пчалярскае гаспадаркі Т-ва павінна заняцца прапагандаю гадоўлі медадайных расьцін, пераходу на рамовую сыстэму, даваць парады пачынаючым пчалярам, прапагандаваць спажыцьцё мёду, і г.д. Практычна - для гэтага трэба выдаваць сваю часопісь, фаховыя кнігі, ладзіць курсы, лекцыі і рэ-

фераты па ўсіх галінах пчалярства, арганізаваць узоровы пчальнік і станцыю гадоўлі медадайных расьцін і г.д.

Як відзім, работы шмат і на ўсё патрэбны грошы. Не разьлічваючы ні на якія дапамогі, і ня маючы магчымасьці знайсьці крэдыты, бо адзіная нашая крэдытная установа -Беларускі Крэдытны Коопэратыў /даўн.Банк/ ня можа зараз даць Т-ву крэдытаў, мы павінны разьлічваць выключна на свае ўласныя капіталы. Дзеля гэтага здабыцьцё новых сяброў зьяўляецца першым заданьнем Т-ва.

Кожны пчаляр-беларус павінен стацца сябром Т-ва "Пчала" і ўцягіваць у Т-ва сымпатыкаў пчалярства. Упісацца ў Т-ва на так цяжка. Пай выносіць усяго 10 зл., упісьня і сяброўская кніжка са статутам -3 зл.; дапускаецца і разсрочка паю. Адказнасьць за забавязаньня Т-ва 6-кратная. Адказнасьць гэтая таксама не павінна пужаць. Яна патрэбна дзеля таго, што пры невялікім паі мы ня зможам сабраць капіталу патрэбнага дзеля вядзеньня гандлёвага прадпрыемства і змушаны будзем разьлічваць на таварныя крэдыты, атрымаць якія можна толькі пры адпаведным забясьпечаньні. Дадатковая адказнасьць і зьяўляецца гэтакім забясьпечаньнем. Есьць яна і ў украінскім Т-ве "Рій" /6-цікратная пры паі ў 6 злот./, ёсьць і у польскім т-ве "Барць" /5-цікратная пры паі ў 20 зл./. І гэта ў т-вах, якія налічваюць сваіх сяброў тысячамі. Там ніхто не баіцца гэтае адказнасьці -усе, сьвядома і сьмела ідуць у свае т-ва добра ведаючы і разумеючы, што гэтага вымагаюць інтарэсы агульнае справы -пчалярства.

Разьвіцьцё нашага Т-ва "Пчала" і выкананьне намечанае праграмы працы залежыць таксама ўсяцэла ад саміх пчаляроў.

Асяродак беларускага пчалярства створаны. Трэба толькі ўзмацаваць яго -ўліць у яго патрэбны капітал. Гэта абавязак ня толькі кожнага пчаляра беларуса, але і кожнага сьвядомага беларуса. Усе павінны стаць у рады адзінае беларускае пчалярскае арганізацыі і стварыць сільную беларускую пчалярскую коопэратыўную сямью. Гэтага вымагае ня толькі беларускае пчалярства, але і беларуская справа наагул.

## П е р а д   з і м о й.

Наступіла пара, калі пчаляр мусіць узяцца за прыгатаваньне пчолак да зімоўлі. Гэта, можна сказаць, работа самая важная і самая адказная, бо, калі выканаем яе нядбала ці няўмела то можам мець вялікія страты.

У працягу лета пчолы займаюць большы ці меньшы лік рамак адносна ва да сілы пчалінай сямьі, але заўсёды гэты лік будзе завялікім для зімовага гнязда. На зіму пакідаем 7,8,9,10 рамак залежна ад велічыні сямьі. Злажыўшы гняздо, г.зн. выняўшы лішнія рамкі, паміж якімі павінны знайсьціся рамкі пустыя, з недацягнутай вашчынай, з вашчынай старой /чоркай/ ды з малым лікам мёду, добра пасьля некалькіх дзён яшчэ раз сваю работу скантраляваць. У халодную раніцу заглядаем да вульля: калі пчолы абсядаюць усе рамкі, то гняздо добрае; калі рамка за адгароднай дошкай пустая, то значыць, што яна лішняя і мусім яе выняць; калі-ж пчолы сядзяць аж на дошцы, то трэба дадаць яшчэ адну рамку, бо гняздо замалое.

У адпаведным да сілы сямьі гняздзе мусіць быць адпаведная колькасьць мёду. На зіму сярэдняя сямья павінна мець 10-12 кілеграмаў. Калі ў гняздовых рамках гэтай колькасьці мёду няма, а ёсьць мёд у рамках вынятых, як лішнія, то трэба тыя рамкі паставіць за адгародную дошку, каб пчолы перанясьлі мёд у гняздо. Добра гэтыя рамкі раней распячатаць. Як толькі пчолы мёд выбяруць сухія рамкі забіраем.

Зусюль прыходзяць весткі, што сёлетні мёдазбор не быў здавальняючым і шмат хто з пчаляроў змушаны пчол падкарміць, хочучы, каб яны дачакалі вясны. Падкормліваем цукрам прыгатаўляючы з яго цукровы сыроп: бяром 2 часткі /напр. шклянкі/ цукру і 1 частку вады і варым гэту сумесь некалькі мінут на малым агні, зьбіраючы шум, які падымаецца на паверхню.

Цукровага сыропу даем на сямью столькі, колькі ей не хапае да поўнага зімовага запасу. Калі напр. сямья павінна мець 12 кгр., а мае толькі 8, то мусім ей даць 4 кгр. цукру. Цукер даём вялікімі порцыямі ў вечары. Калі даваць па крысе кожны дзень, то матка, думаючы, што ёсьць пажытак кладзе больш яечак і чарва зьесьць перад зімою шмат мёду і пчол яшчэ раз трэба было б падкормліваць. Падкормліваць найлепш з гары. Да такога падкормліваньня ёсьць шмат розных кармушак, але калі хто ніякай не мае, то можа карыстацца шкляным слоікам з нешырокім горлам. Наліваецца сыроп, абвязваецца слоік палатном у адну або дзьве столкі і ставіцца ў гару дном на рамкі, або ў вульлі Дадана ў выраз у падушцы. Калі яшчэ на дварэ даволі цёпла, то пчолы таксама возьмуць сыроп пастаўлены ў якой небудзь плоскай пасудзіне пад рамкамі. Толькі трэба помніць, каб на верх сыропу пакласьці тоненькую дошчачку /дыкту/ з паробленымі ў ей дзіркамі.

каб пчолы бяручы сыроп не пataпіліся. Даючы сыроп пад рамкі,трэба кармушкі на дзень забіраць,каб ня выклікаць нападкі. На ўсякі выпадак вылеты ў вульлях,якія падкармліваем, паменьшаем.

Ужо цяпер трэба гняздо накрыць. Найлепш пашыць з мяшкоў сяньнікі адпаведнай шырыні,напхаць іх сухім мохам,або найпрактычней сухім лісьцём /лісьцё не нацягівае вільгаці і вясной выймаецца такім жа сухім,як было ў восені/ і накрыць зьверху рамкі спускаючы канцы на бакі. Пакуль што гэтакага ўцяпленьня хопіць,а калі пачнуцца халады,то пустое мейсца паміж адгароднымі дошкамі і сьценкамі вульля запаўняем мятай ячменнай ці аўсянай саломай,або сухім лісьцём.

## ЗІМОЎКІ ДЛЯ ПЧОЛ.

Пчолы на зіму зьбіраюцца ў адзін клубок у сярэдзіне гнязда пад запасамі мёду. Калі яны маюць добрыя,адпаведныя абставіны,то сядзяць ціха, ядуць мала і паволі пасоўваюцца ў гару,або у зад /у вульлёх Дадана/ у меру зьяданага мёду.

Цяпло ў клубку пчол не аднастойнае: то яно падымаецца,то ападае. Пчолы рэгулююць яго такім чынам,што,як зробіцца ім халадней,то яны ядуць больш мёду,рухаюцца і гудзяць. Калі ў гэтакі спосаб цяпло падымецца пчолы ізноў заціхаюць і перэстаюць есьці.

Чым больш аднастайную цяплыню маюць пчолы ў вульлі,тым меньш мёду патрабуюць яны на зімовы час. Паводле доказаў праф.Цесельскага і іншых пчолы зімаваныя пры даволі высокай і аднастайнай тэмпэратуры зьядаюць у 3 разы меньш мёду,чым выстаўленыя на холад і пераменную пагоду.

З гэтага бачым,што з боку ашчаднасьці найкарысьнейшым бывае зімаваньне пчол у закрытых будынках. Надаюцца да гэтага пустыя хаты, варыўні /толькі пустыя,бо разам з капустай ды буракамі пчол ставіць нельга/ і г.д., у тым выпадку,калі там ня гнезьдзяцца мышы і будзе захаваны поўны спакой.

Найлепшымі аднак для зімоўлі пчол будуць сумысьля будаваныя з і м о ў к і.

Зімоўку можна будаваць з якога хто хоча матэрыялу: дрэва, цэглы, каменьня, гліны,бэтону. Будуецца яе або цалком у зямлі,як склеп,або напалову ў зямлі,тады сьцены,што выстаюць на паверхню абсыпаецца зямлёй і абкладаецца дзёрнам.

Зімоўка мусіць мець 5 наступных прыкметаў: мусіць быць сухой,цёплай, ціхай, цёмнай і адпаведна праветранай.

Каб зімоўка была сухой трэба яе перадусім будаваць у сухім мейсцы. Добра ў столі проціў дзьвярэй зрабіць душнік,які на зіму шчыльна зачыняецца і адчыняецца на цэлае лета,каб зімоўка магла добра сохнуць. На столь,пад страхой зімоўкі лепш ня сыпаць зямлі, а палажыць таўсты пласт сухога моху,сухога лісьця,або льняной кастрыцы, -тады вільгаць лягчэй выпарываецца.

Перад тым, чым ставіць пчол у зімоўку,трэба добра яе прасушыць,палючы ў ёй вогнішча,пракурыць серкай,пабяліць сьцены х л ё р а в а й в а п н а й і палажыць у кутах драўлянае вугальле,якое ўцягне ў сябе лішню вільгаць. Лішняя сухасьць аднак дрэнна на пчол уплывае,бо яны тады церпяць смагу. Каб пазбыцца лішняй сухасьці трэба на пэўны час абнізіць тэмпэратуру,або паставіць у зімоўцы пасудзіну з вадой.

Цяплыня ў зімоўцы павінна быць па магчымасьці аднастайная. Найбольш адпаведная -гэта ад 0 да плюс 5 градусаў. Калі тэмпэратура лішне нізкая то зачыняецца на пэўны час вэнтылятары,а калі завысокая то адчыняюцца дзьверы,або ставіцца на нач пасудзіна з лёдам ці сьнегам.

Паветра ў зімоўцы мусіць быць заўсёды сьвежае -чыстае, Дзеля гэтага праводзіцца два коміны-вэнтылятары,каля 20 цм.у квадраце. Адзін комін ідзе ад самай падлогі зімоўкі /на 20-25 цм.ад яе/, другі- з другога боку ад самай столі. Абодва коміны павінны быць зацягнуты драцяной сеткай. Праз першы -ўваходзіць у зімоўку звонку халоднае,сьвежае паветра, праз другі -выходзіць сапсутае.

Пчолы ў зімоўцы павінны мець поўны спакой. На полкі пад вульлі падсьцілаецца салома,або сухі мох;вульлі ставіць ня пры самых сьценках зімоўкі,тады ўселякія стукі і галасы звонку не перадаюцца пчолам. Падлогі ў зімоўцы лепш не рабіць,а насыпаць таўсты пласт сухога пяску. Па пяску ходзіцца ціха і мышы ў ім ня гнезьдзяцца. У мураванай зімоўцы добра зрабіць падлогу цымэнтовую і пасыпаць яе ;пілавіньнем.

У зімоўцы павінна быць заўсёды цемна. Дзеля гэтага дзьверы ў зімоўку павінны быць падвойныя з сенцамі; тады ўваходзячы ня ўпускаецца сьвятла і таксама халоднага паветра.

Хто з пчаляроў мае малыя запасы мёду ў вульлях,а падкарміць цукрам

аму трудна, няхай ратуе пчол зімуючы іх у зімоўках.
Сухая і цёплая пагода паззалле яшчэ цяпер прыступіць да будаваньня.
Ратуйма нашых пчолак, не астаўляйма іх на няпэўны лёс.

В. З.

## Перахоўваньне і ператалліваньне вашчыны.

Залажыўшы гнёзды на зіму і забраўшы лішнія рамкі, а таксама выграсшы мёд на пушніцах трэба адразу ўпарадкаваць і пасартаваць вашчыну. Рамкі з маладой, чыстай і цэлай пчалінай вашчынай трэба бязумоўна ўмела перахаваць, каб на новы сэзон мець гатовы запас.

Найлепш перахоўваць у шчыльных скрынках вешаючы іх так, як вешаецца ў вульлі. Каб скрынкі зрабіць якнайшчыльнейшымі добра выкліць іх ў сярэдзіне моцнай паперай. Накрыўка павінна быць таксама падклеяная і шчыльна прыставаць да скрынкі. Вашчыну ў няшчыльных скрынках, пустых вульлях, або проста павешаную на сьценах можа ўшчэнт папсаваць матыліца.

Вашчыну старую, паламаную, або трутовую трэба з рамак павырэзываць і найлепш адразу ператаліць.

Ці воск назначаецца для прадажы, ці дзеля перарабкі на вузу, важна, каб ён быў зусім чысты, сьветлы і прыемнага паху. Брудны і цёмны воск ў гандлі мае нізкую цану, а пры перарабцы на вузу мусіць быць яшчэ ачышчаны, на што адыходзіць значны працэнт яго вагі.

Пры ператалліваньні воску трэба насамперад зьвярнуць увагу на якасьць пасудзіны, ў якой яго будзем ператалліваць. Нельга ператалліваць у жалезных ці чыгунных саганох, бо тады ўжо напэўна воск будзе цёмны; найлепшай пасудзінай зьяўляецца эмаліяваная, або паліваныя-гліняныя гаршкі і цёрлы. У апошніх трэба ператалліваць ставячы іх здалёк ад агню. Калі-б воск і ў такім выпадку вышаў цёмны, тады яго другі раз таліць ня трэба, бо чым больш ператалліваць, тым воск горш цямнее. Перад выталліваньнем воск трэба пасартаваць г. зн. аддзяліць маладую, сьветлую вашчыну ад старой -цёмнай.

Белую, маладую вашчыну найлепш ператалліваць у сонечнай васкатопцы, а калі яе няма, тады ўзяўшы шырокую каменную або гліняную паліваную пасудзіну наліць на дно гарачай вады, налажыць шчыльна вашчыны і паставіць у печку пасьля хлеба. Калі вашчына растопіцца і будзе ў пасудзіне пустое мейсца, дакладаем у яе новую порцыю і гэтак робім пакуль пасудзіна ня будзе поўная растопленага воску. Пакуль вашчына топіцца перамешываем яе драўлянай лапаткай, каб воск ня прыгарэў. Калі вашчына зусім растопіцца, даем ёй устоіцца і тады зьліваем у гліняную -паліваную міску, змочаную перад гэтым салёнай вадой.

Старую, чорную вашчыну перад выталліваньнем крышым на дробныя кускі, кладзём у драўляную бочку і заліваем цёплай вадой. Гэтак пастаіць яна цэлую пару; тады пераменяем ваду і зноў вашчына мокне другую пару. Пасьля гэтага вашчыну трэба выціснуць, або перапаласкаць насамперш гарачай, пасьля цёплай і ў канцы халоднай вадой. Дзякуючы такому перамываньню, адстане ад вашчыны сухая пярга, г. зв. "кашулькі".

Гэтак прыгатаваную вашчыну можна ператалліваць.

Ператалліваюць вашчыну рознымі спосабамі. Найчасьцей у нас вараць яе у малой колькасьці вады у гаршкох, а тады ўліваюць у палатняныя мяшкі-сырнікі і выціскаюць. Але гэты спосаб ня можна лічыць добрым, бо воск выціснуць вельмі цяжка; паміма найлепшай прэсы шмат яго астаецца ў адпадках, шмат разпырсківаецца і астаецца на мяшку.

Добрую і танную васкатопку можна сабе прыгатаваць паводле рады расейскай часопісі "Пчеловод Практик" за 1928 год.

Бярэцца дзьве пасудзіны гліняна-паліваныя, з якіх адна вузейшая і вышэйшая увыходзіць у другую -шырэйшаю і ніжэйшую, на якіх 2½ цантыметры. У верхняй тонкім і вострым цьвяком робяцца дзіркі адна ад аднэй на 1 цант. адлегласьці. Накладаецца туды вашчына і парыцца яе варам. Калі вашчына ад вару зробіцца мяккая, прыціскаецца яе лыжкай, шчыльна накрываецца накрыўкай і сваіцца яе з пасудзінай у тую другую пасудзіну, ў якую на дно наліта гарачай вады. Гэтак наладжаная васкатопка, ставіцца ў печку пасьля хлеба. Воск топіцца і праз дзіркі сьцякае ў ніжнюю пасудзіну. Стаіць гэтак васкатопка ў печы праз усю ноч. У той час печка памалу астывае, воск паступова гусьцее, ачышчаецца і застывае.

Гэтак ператаллены воск ніколі ня бывае прыгарэўшы, заўсёды сьветлы і чысты.

## ЗЬБІРАЙЦЕ ВОСК!

Усім саліднейшым пчаляром дасканальна ведама якую ролю адыгрываець у навейшым пчалярстве штучная вуза. Ніхто хіба не запярэчыць, што стасаваньне штучнае вузы для пчол, гэта пабольшаньне рэзультатаў сваей працы ў шмат разоў. Хтож-бы сяньня адважыўся рабіць штучнае раеньне /падзел/ не стасуючы штучнае вузы. Альбо хтож-бы падчас наступленьня багатага мёдазбору не захацеў пабольшыць гэтага мёдазбору цераз стасаваньне штучнае вузы, бож ведама, што пакуль пчала зробіць адзін кіляграм воску, то ў гэты самы час яна можа прынясьці 10 кіляграмаў мёду. Прымаючы-ж пад увагу і тое, што воск зьяўляецца пабочным прадуктам мёду, бож выдзеляецца ён як скутак перагатоўкі цвяточнага нектару ў брушку пчалы /мядовы мяшочак/ у мёд, выдзеляючыся маленькімі тоненькамі пласточкамі на вонку брушка; хтож-бы захацеў наразіцца на застой у сваім пчальніку не пабольшваючы колькасьці гэтага патрэбнага воску цераз даданьня штучнае вузы. Альбо зноўжа: трэба аднавіць гняздо, замяняючы старыя рамкі новымі, як гэта зрабіць не застасаваўшы штучнае вузы. Адным словам штучная вуза гэта канешны прадмет паступевага сучаснага пчаляра-аматара, а тымбольш пчаляра-прамыслоўца.

Дзеля тагож, што ў гаспадарцы кожнай павінна на першым мейсцы знаходзіцца засада ашчаднасьці і рацыяналізацыі, вучэмся тасаваць гэтыя засады і ў пчалярстве, вучэмся рабіць з свайго матэр'ялу ўсё патрэбнае для пчолак, дык вучэмся рабіць са свайго воску штучную вузу. Зьбірайма і ашчаджайма свой воск, каб яго потым адасылаць у сваё коопэратыўнае Т-ва "Пчала" дзеля пераробкі на штучную вузу. Зьбірайма воск групамі, каб нам таней гэта каштавала. Робім гэта ўсе вось зараз не чакаючы каб ужо на вясну мець свае запасы і не пляціць за вузу па 7-8 златовак за кілё; са свайго воску яна абойдзецца нам значна таней.

Пчаляр з Палесься.

А д р э д а к ц ы і. Вітаем голас пчаляра з Палесься, што да зборкі воску дзеля пераробкі на штучную вузу. Адначасна камунікуем усім Паважаным Пчаляром, што Коопэратыўнае Т-ва "Пчала" прымае воск на пераробку на вузу па цане 1 зл.80 гр. за кілё; перасылка за кошт заказчыка. Дзеля таго каб перасылка таней абыйшлася найлепей было-б перасылаць воск у большых партыях. Ня трудна гэта зусім зрабіць, калі нехта адзін са сваей ваколіцы займецца акцыяй зьбіраньня воску. Грошы на пераробку трэба прысылаць адначасна з высылкаю воску. Прыймаецца воск да дня 1-га сакавіка 1935 г.

## ЯК АЧЫСЬЦІЦЬ ДЭНАТУРАВАНЫ ЦУКАР ДЛЯ ПЧОЛ.

Дэнатураваны цукар часам так бывае занячышчаны зямлёй ды брудным пілавіньнем, што яго трэба абавязкова старанна ачысьціць перад прыгатаўленьнем сыропу, бо інакш пчолы ад гэтага цукру могуць прапасьці. Калі маем такі брудны дэнатураваны цукар, то перадусім трэба яго на ветры выveяць. Пераveяны сыпем у ваду; рэшткі пілавіньня падымуцца на верх і тады можам сабраць іх лыжкай, а пясок асядзе на дне пасудзіны. Падчас таго, як варым, зьбіраем старанна шум, а зьняўшы з агня працэджываем праз палатно.

/паводле "Украінскага Пасічн./

Л.В о й ц і к а в а.

## М Е Д А Д А Й Н Ы Я Р А С Ь Ц І Н Ы.

4. Да г а с п а д а р с к а - м е д а д а й н ы х належыць перадусім грэчка, якая ў шмат якіх ваколіцах дае галоўны пажытак. Масава сеяны лён таксама дае пчолам крыху карысьці.

5. Пчаляру, асабліва местачковыя і гарадзкія могуць з вялікай карысьцю заводзіць насенныя плянтацыі, зьвяртаючы увагу на капусту, бручку, радноку, цыбулю, а таксама дэкаратыўныя кветкі, якія да позьняй восені даюць пчолам пажытак.

6. Далей прамыслова-медадайныя, з якіх гарчыца, сонешніка, мак не патрабуюць аб'ясьненьня.

7. Л е к а р с к а - м е д а д а й н ы я. Што раз больш пашыраецца, як у другіх краёх, так і ў нас гадоўля лекарскіх расьцін. Вялікага іх запатрэбаваньня ня могуць здаволіць расьціны дзіка растучыя, а практыка паказала, што гэктар зямлі, абсеяны якой небудзь лекарскай расьціной, прыносіць шмат больш даходу, чым абсеяны збожам. Зьвярнуўшы ўвагу, што многія з лекарскіх расьцін зьяўляюцца вельмі добрымі медадаямі, ба-

чым,што і ў гэтым выпадку можам атрымаць дзьве карысьці.

8. Дэкаратыўна-медадайныя хоць і не даюць відавочнай карысьці,усюду маюць сваіх прыхільнікаў асабліва паміж жанчынамі. Ня знойдзецца хіба ў вёсцы ніводнае хаты,пры каторай ня рос бы хоць кусьцік бэзу,або некалькі кветек. Мейсца яны шмат не займаюць, а робяць нашае жыцьцё прыгажэйшым і мілейшым. Даволі выбраць дзеля гэтай аздобы кусты і кветкі медадайныя і будзем мець ня толькі прыемнасьць для вока, але і пчолы пажытак сабе знойдуць. Апрача таго заўсёды можна знайсьці кусочак мейсца каля хаты або пры вуліцы ,каб пасадзіць пару ліпаў і акацыяў, каторых нідзе і ніколі ня можа быць за шмат.

9. Жываплоты. Як у горадзе,так і на вёсцы ці на хутары карысна замяніць платы з дошак,якія дорага каштуюць і хутка псуюцца -жыва - плотамі,падбіраючы на іх кусты,паводле патрэбы, высока або нізка растучыя. І прыгожа выглядаюць такія платы, і пажытак пчолам даюць добры, а калі выбярэм кусты калючыя, то і злодзея ня пусьцяць.

10. Да апошняй групы залічым усе расьціны выключна медадайныя. Найчасьцей гэта расьціны ня маючыя адносна грунту ніякіх вымаганьняў. Растуць на пяшчаных і камяністых грунтах,пад платамі,на самых горшых няўжытках. Іх павінен знаць добра кожны пчаляр і сеяць там,дзе сягодня пануюць асот,крапіва,чарнобыль і іншыя на нішто нездатныя расьціны.

Магчыма,што не адзін падумае, што зашмат працы і коштаў трэба палажыць хочучы выпаўніць усе гэтыя рады, калі і бяз гэтага пчолы могуць жыць і працаваць. Але-ж ня трэба забывацца,што пасеяныя і пасаджаныя пчаляром расьціны ня толькі дадуць пчолам пажытак ды пабольшаць мёда - збор,але і самі праз сябе аплоцяць і кошты і працу.

### Фруктова-Медадайныя расьціны.

Фруктовыя дрэвы,як: яблыні,грушы,сьлівы і г.п.,а таксама ягадныя кусты -агрэст,парэчкі,-падрабязнага апісаньня не патрабуюць,бо іх кожны добра знае. Трэба толькі сказаць, што ня ўсе гэтыя дрэвы і кусты мядуюць адзінакава. Адныя,як:яблыня,чарэшня,агрэст,сьліва,груша,чорная парэчка і маліна могуць быць залічаны да найлепшых медадаяў, іншыя,як: вішня -да слабейшых, а чырвоная парэчка -да найслабейшых. Як бачым,найбольшая колькасьць фруктовых дрэваў і кустоў належыць да найлепшых медадаяў. Калі да гэтага дадаць,што цьвітуць яны адныя за другімі ў працягу цэлага месяцу і то рана вясной,калі іншага пажытку пчолы ня маюць, мусім дайсьці да пераконаньня,што кожны пчаляр перадусім павінен закласьці каля сваей хаты больш,ці меньш садок.

### Дрэвы і кусты дзікія ды дэкаратыўныя.

Пры цяперашнім частым пераходзе вёсак на хутары,няраз прыходзіцца селяніну будавацца на чыстым полі,дзе няма ні дрэўца,ні кусьціка. І няміла,і ветры гуляюць бяз перашкоды і для пчол няма ніякага прытулку. У гэтым выпадку трэба старацца абсадзіць сабе хату і панадворак,а нават і блізкую дарогу такімі дрэвамі і кустамі,якія растуць хутка і пчолам даюць пажытак. -Ніжэй падаю падрабязныя апісаньні медадайных дрэў і кустоў такіх,каторыя растуць у нас дзіка і такіх, якія паходзяць з іншых краёў, а ў нас гадуюцца толькі як дэкаратыўныя.

### Дрэвы.

Акацыя. /Robinia pseudoacacia/ .

Дрэва дарастаючае да 25 мэтраў вышыні. Лісточкі мае парыстакротныя Кветкі матыльковыя,белыя або ружовыя /ружовая акацыя/, сабраныя ў зьвіслыя букеты. Цьвіце ў чэрвені ў працягу блізка 2-х тыдняў. Бацькаўшчына акацыі -Паўночная Амэрыка. У нас гадуецца ў садох,парках,алеях дзеля аздобы. Расьце вельмі хутка і добра на кожнай зямлі. Размнажаецца лёгка з насеньня. Ёсьць вельмі многа усялякіх адмен акацыі і ўсе яны цэнныя медадаі. Акацыёвы мёд сьветлы,крысталізуецца дробнай крупкай і мае высокую цану. -Дрэва акацыі вельмі добрае на такарскія вырабы.

Галабень. польс. Głód ,укр.Глід,рас.Боярышнік. /Crataegus oxyacantha/.

Цярністае дрэўца на 3-5 мэтраў вышыні. Лісткі 5-пальчатыя глыбака і востра зубкаваныя. Кветкі белыя,невялікія формай падобныя да кветак грушы,сабраныя парасончыкамі. Ягады чырвоныя, мучністыя. Цьвіце ў маі зараз пасьля садоў. Пчолам дае шмат добрай пяргі /пылку/ якраз тады,калі іншых крыніцаў дзеля збору пяргі пчолы ня маюць. -Галабень расьце дзіка на ўзлесьсі,ў зарасьлях,пры дарогах. У шматлікіх адменах /шчэпляны/ гадуецца,як дрэўца дэкаратыўнае. Розныя адмены яго цьвятуць не адначасна, а адна за другой і такім чынам,гадаваньня ўсе разам, даюць пчолам пажытак амаль не праз цэлы месяц. -Галабень дзікі ужываецца на моцныя,калючыя жываплоты, а таксама як падкладка для шчапленьня карловых грушаў.

/працяг будзе/

## ГОЛАС ПЧАЛЯРА СА СТАЎПЕЧЧЫНЫ.

Пчалярства ў нашым стаўпецкім павеце знаходзіцца, можна сьмела сказаць, на адпаведнай ўзаровай плошчы. Есьць у нас шмат пчаляроў, якія водзяць пчолак ужо паводле найноўшых вымогаў навукі і тэхнікі і з пчаляроў аматараў робяцца пчалярамі прамыслоўцамі, г.зн., што трымаюць пчол не дзеля прыемнасьці, а для паважнага даходу. Адзін толькі вялікі недасягяшчэ даецца заўважыць, - гэта незразуменьне патрэбы арганізавацца: абяднацца пры адзінай нашай пчалярскай арганізацыі, якой зьяўляецца Беларускае Коопэратыўнае Т-ва "Пчала". Есьць гэта недасяг надта вялікі і важны і трохі сорамна павінна быць пчаляром, што не бяруць прыкладу са сваіх пчолак. Пчаляр без арганізацыі, як пчала без сям'і. Гэта трэба памятаваць кожнаму пчаляру. Трэба ведаць, што бяз лучнасьці з другімі адзін пчаляр нічога ня можа здабыць, нават і ў такіх важных галінах як веда, збыт мёду, выраб штучнае вузы, гадоўля медадайных расьцін і г.д. Тут якраз выпадала-б абгаварыць шырэй некаторыя з гэтых галін арганізаванае пчалярскае працы. Вось-жа перадусім на нашым стаўпецкім рынку кідаецца ў вочы недахват адпаведнага сартаваньня і апакаваньня мёду. Калі прыйсьці ў кірмашовы дзень на рынак заўсёды можна ўгледзіць шмат пчаляроў прадаючых свой мёд і брыдка нават прызнацца, што кожны прывёз яго ў іншай пасудзіне; адзін прывез яго у дзеравяным кадоўбе, другі ў жалезным, трэці ў вядры, а іншыя - ў дзежцы, ў бутэльцы, ў ночве і г.д. Сорам дый годзі. Гэтакая важная галіна дый гэтак занядбаная. Трэба ведаць ўсім, што апакаваньне тавару значна ўплывае на яго цану, і што аднолькавае апакаваньне тавару аднаго гатунку сведчыць пры гэтым і аб культуры прадуцэнтаў гэтага тавару. Адным словам аднолькавае апакаваньне мёду мела-б вялізарны ўплыў на яго цану. Прыгожы выгляд дзеравяных аднолькавых кадоўбчыкаў прыцягаў-бы салідных купцоў і мёд наш, у такім апакаваньні, надаваўся-бы на экспорт. Другая галіна, якая надта занядбана ў нашым павеце, дык гэта гадоўля медадайных кветак, кустоў і дрэў. Пчол у ваколіцы шмат, а аб павялічэньні для іх узятку ніхто ня рупіцца, што у рэзультаце памяньшае мадазбор. Пчалярам трэба аб гэтам ~~памятаць~~ і зразумець, што толькі ў лучнасьці можна правесьці аднолькавае апакаваньне мёду і яго збыт, і што толькі у лучнасьці можна праводзіць акцыю павялічэньня колькасьці медадаяў. Адным словам лучнасьць гэта адзіны і найлепшы шлях для атрыманьня большага даходу з пчол і са сваей працы.

## З Б О Р І С У Ш К А К А Р Э Н Ь Н Я Ў.

Як бачым з ніжэй пададзенага календарыка зборкі лекарскіх зёлак на месяц кастрычнік прыпадае найбольшы збор карэньняў. Расьціна праз ўсю вясну і лета пільна працавала зьбіраючы ўсялякія спажыўныя часткі з зямлі і з паветра і складала запасы ў сваю камору-корань. Цяпер у восені расьціна пераходзіць у стан супачынку і прыдбаныя запасы аж да вясны астаюцца некранутымі. У гэтую пару - перад зімой і рана вясной, пакуль не пакажыцца лісьцё, - найлепш зьбіраць карэньне, бо яно мае тады ў сабе найбольш лекарскай сілы.

Сёлетняя сухая восень вельмі спрыяе збору карэньняў і сушцы іх. Выкапаныя з сухой зямлі яны лёгка адмываюцца ці ачышчаюцца і хутка сохнуць.

Кожны корань мае дробненькія да нітак падобныя карэньчыкі, якія лекарскага значэньня ня маюць, а толькі псуюць выгляд тавару і дзеля гэтага трэба іх адкідаць найлепш перад мыцьцём. Выняткам зьяўляецца в а л е р ы я н а, карэньне якой сушацца цалком, нічога не адкідаючы.

Некатарае карэньне ня радзяць мыць, а толькі ачышчаць ад зямлі на суха, але гэта залежыць ад таго, дзе яно расло, бо калі на вельмі мокрым грунце, - то ад балота ачысьціць яго вельмі трудна і трэба канешна вымыць і то старанна. Да такіх карэньняў належыць напр. карэньне жывакосьніку. Трэба адно мець на увазе, што наагул мыць карэньне трэба х у т к а, каб не нацягівала ў сябе вады, а дзеля гэтага не кладзём у пасудзіну з вадой адразу вялікай колькасьці, а толькі па некалькі карэньчыкаў, вымываем іх і зараз разкладаем тонкім пластам ў правеўным мейсцы.

Некаторае карэньне, як напр. д з е р а в я н к і, п ы р а ю, а е р у /прыпамінаем, што аер трэба ababраць з верхняй скуркі/, п[illegible] ч о ш н і к у і г.п. рэжыцца на дробныя кусочкі /вялічыні гароху/ адразу як толькі пасьля мыцьця абсохне вада, іншыя, як ж ы в а к о с ь н і к падсыхаюць раней у цэласьці аж пакуль ня зьвянуць і ня зморшчацца, а тады і рэжыцца і дасушываецца. Карэньне м а л а ч а ю сушыцца цалком, дзеля того, што мае у сабе "малачко" якое з парэзанага караня выцекла-б і корань страціў-бы сваю вартасьць.

Сушыць карэньне можна як у цяньку, так і на сонцы, а таксама ў печках пасьля хлеба. Сушачы ў штучным цяпле, г.зн. ў печках, або на сумысных сушарнях, падсушываецца наоамперад ў ніжэйшай тэмпэратуры, а дасушываецца ў вышэйшай, пры чым карэньне, якое мае пах сушыцца наагул пры тэмпэратуры ніжэйшай, чым карэньне бяз паху.

Калі сушым у печках, вельмі практычна раскладаць парэзанае карэньне на сітах і рэшатах, бо тады цёплае паветра абымае іх з усіх бакоў, а таксама адысподу і яно хутка і роўна сохнець. Падсушываць можна на печах гэтак сама на сітах.

## Календарык зборкі зёлак.

Кастрычнік - Лістапад

| Карэньне. | Карэньне. | Насеньне |
|---|---|---|
| Аер | Вылькік | Крапіва |
| Суніцы | Жывакосьнік | Блёкат |
| Рачыкі | Валерьян | Дурнапьян |
| Дзеравянка | Капытнік | |
| Панчошнік | **Ягады** | Дуб - жалуды |
| Пырнік | | |
| Крапіва | Рабіна | Глісьнік - галінкі. |
| | Ялавец | |

## МЁД ЯК ЛЯКАРСТВА.

Кветкі розных расьцін выдзяляюць з сябе салодкі сок. Пчолы гэты сок зьбіраюць і перарабляюць на мёд. Мёд, як паказываюць хімічныя аналізы складаецца: з вады, цукру звычайнага, цукру фруктовага і вінаграднага дэкстрыны /зьмененны крахмал/, бялкоў, фосфару, жалеза, вапны, і іншых мінэральных складнікаў ды вітамінаў і малочнага і мураўлінага квасаў.

Усе гэтыя складовыя часткі мёду вельмі лёхкастраўныя і маюць лекарскія уласьцівасьці.

Хаця ў старадаўныя часы людзі не разьбіралі мёду хімічна, але усё ж такі аб яго лекарскіх уласьцівасьцях ведалі і верылі ў іх.

І сягодня, наскольні мала зьвяртаюць увагі на спажыўную вартасьць мёду, настолькі часта ратуюцца мёдам у выпадку хваробы, прымаючы яго напрыклад ад кашлю, болю горла, робяць масьць з мёдам ад скулаў і г.д. Часта таксама дадаюць мёд да адвараў з розных зёлак.

І слушна. Зёлкі самі па сабе зьяўляюцца найлепшымі прыроднымі лекарскімі сродкамі, а дададзены мёд яшчэ ўзмацняе вартасьць ужытага лякарства.

Шмат ёсьць рэцэптаў у народнай мэдыцыне на рознае лякарства з зёлак і мёду. Усе яны даюцца легка прыгатаваць і часта вельмі памагаюць, а ўжо ў ніякім выпадку не пашкодзяць. І вось з гэтага № будзем падаваць розныя рэцэпты. На пачатак падаём некалькі ўзятых з "Украінскага Пасічніка", надалей просім паважаных чытачоў прысылаць нам свае рэцэпты ўсе якія хто мае.

**М я т а  з  м ё д а м.** Ў адзін літр вару ўкінуць жменьку мяты, накрыць пасудзіну і адставіць на халоднае мейсца. За 10 хвілін напітак гатовы. Зьліваюць яго ў бутэлькі і засаладжываюць мёдам. Гэты напітак вельмі здаровы і ўжываюць яго дзеля добрага траўленьня, пасьля мясной ежы і наагул, як напітак асьвяжаючы замест содавае вады, гарбаты і г.д.

**Р э д з ь к а  з  м ё д а м.** Сок з рэдзькі зьмешаны з мёдам вельмі добра дзеіць ад хрыпкі, ад залажэньня грудзей і ад дыхавіцы. Можна надзёрці рэдзькі, зьмяшаць з мёдам і гэтак ужываць.

**Ш а л в е я  л е к а р с к а я  з  м ё д а м.** Сок, выціснуты са сьвежага лісьця шалвіі з дадаткам мёду вельмі добра гоіць гнойныя раны.

**К а п ы т н і к  з  м ё д а м.** Нямецкі пастар Кнэйп, які напісаў кніжкі аб лячэньні вадой і зёлкамі радзіць тым, каму часта баліць галава, піць у працягу некалькі дзён рана і вечарам па шклянцы адвару капытніка з мёдам. Прыгатаўляюць яго так: шчопця парэзанага і высушанага карэньня капытніку заліваецца вадой і варыцца 5-6 мінут. Пасьля гэтага працэджываецца, дадаецца мёду і яшчэ варыцца. Гэты адвар таксама добра дзеіць пры пачатках выдзянкі і добра ачышчае жывот.

**П а л ы н  з  м ё д а м.** Адвар палыну з мёдам ужываюць пры катары жывата.

Х р э н  з  м ё д а м. Радзяць надзёрці хрэну, зьмяшаць з курыным жаўтком і засаладзіць мёдам. Гэта мае быць стары і памоцны сродак проці хрыпкі.

Р у т а  з  м ё д а м. Робіцца адвар руты з мёдам. Ён павялічвае апэтыт, лечыць болі галавы, памагае пры цяжкім дыханьні і сільным біцці сэрца.

Адвар руты, майранку дзікага і фігі /фрукт цёплых краёў/ - засалоджаны мёдам - вельмі добры сродак ад кашлю і памагае дзецям ад рабакоў.

К а л е н д р а  з  м ё д а м. Насеньне календры разцёртае на парашок і зьмяшанае з мёдам на кашу дае добрую масьць на гніючыя скуры. -Ад болі жывата -добра дзеіць адвар паўлнжачкі календры і 2 лыжачак меду на I літр вады.

## С К У Л Ь  У З Я Л І С Я  П Ч О Л Ы.

/Легэнда/

Разьлілося шырака бязьмернае мора. Вада яго цёмна-сіняя, як краскі валошкі, скрывала ў сваёй глыбіні шмат усялякіх вадзяных расьцінак і яшчэ большую масу рознай жывёліны. Але-ж зверху быў ціхі й аднастайны, толькі час ад часу перабягалі па ім дробненькія хвалі, прыбраныя вузенькімі істужачкамі сьнежна-белай пены. Над морам лёталі серабрыстыя чайкі, каторыя абярнася спушчаліся аж да вады, зручна хапалі рыбку, што неасьцярожна выглянула, і вясёлым крыкам перабівалі аднатонную цішыню.

-Добра натужыўшы ўзрок, можна было ўгледзіць сярод мора маленькую выспу з берагамі скалістымі, але-ж пакрытую багатым дываном рознакалёрных красак, скрываючыхся ў цяньку вялізарнай ліпы, што сваімі магутнымі галінамі абнімала амаль ня ўсю выспу. -Ліпа таксама красавала. Дробны не сьветла-залацісты цьвет густа-густа асыпаў галінкі і пахам сваім напаўняў навокал чыстае паветра.

Ціха было сярод ліпавых галінак. Ніхто ня зьбірае бліскучых капелянк салодкага мёду, што аж выцякае з краскавых чарачак; ня чуваць зыку мушак ні казюляк ніякіх. Ах, шкада, шкада салодкага мёду...

- Ціха, ціха, паслухайце, што гэта за голас сумны замуціў вясёласьць летняга дзянёчка! Аж лісточкі ліпы задрыжэлі. -Што гэта? -Бачыце? -на беразе выспы дзяўчынка сядзіць маладая. А якая харошая, прыгожая!

Залацістыя косы на плячох сплываюць, твары, як кроў з малаком, а вочкі, як лён сіненькія, толькі што сьлёзкамі затуманення. Сядзіць, каленi рукамі абняўшы, ды плача, горка плача. Плача ды галосіць, скаргі с свае на сіняе мора кідае. -А хвалі дробныя разносяць скаргі дзявоцкія далёка, далёка, ды ціхім шумам ім уторацць.

Скаржыцца дзяўчынка, што ня мае нікога, ані радні, ані сяброўак маладзенькіх. Няма-ж з кім пагуляць, ні ад кога якой работы навучыцца, што адзіноцтва не-б асаладзіла, радню ды таварыства замяніла...

Ах, шкада, шкада, дзяўчынка, твае красы і тваіх лет маладзенькіх!...

- На тую пару каля выспы ішоў Спас. Боскай сваёй воляй дзяржаўся на сініх хвалях мора і сьпяшаўся на далёкі бераг зямлі, дзе чакала Ягонага багаславенства, салодкага слова і пяшчоты грамада дзетак маленькіх.

- Яснасьць біла ад дзіўнага харства твару, а зь Яго Боскіх вачэй ліліся крыніцай Дабрыня і Міласэрдзе.

- Учуўшы плач, Спас затрымаўся і ласкава прамовіў : "Шкада, дзіця, тваіх сьлёз! бескарысна падаюць яны на бераг скалісты. -Няхай з іх паўстануць табе падружкі, што цябе сваім прыкладам працаваць навучаць і дадуць асалоду тваяму адзінокаму жыцьцю. Любі іх, шануй і ад крыўды барані".

- Падчас тых слоў з кожнае сьлязы, што ўпала з вочак дзяўчыны, вылятала залацістая пчолка і кружылася над дзявоцкай галоўкай. Многа, многа ўжо ўзьнялося іх! Хмаркай бліскучай пераліваліся яны ў косках сонейка.

- Глядзіць Спас і кажа: "Няхай і мая паміж тваімі будзе". -I ў той час з сьлязы, што з вачэй Спаса скацілася, вылецела вялікая Пчала-матка.

- Як га ўсе пчолы закружыліся каля яе і з звонкім, вясёлым бзыкам, палётаўшы сярод пахнючых ліпавых красак, увязаліся цэлай грамадой на зьвіслай галіне.

- Гэта быў першы пчаліны рой.

Зоська Верас.

## З ЧУЖОГА ЖЫЦЬЦЯ.

Бацька украінскага пчалярства П.Пракаповіч быў першым дасьледчыкам мядадайных расьцін.

Больш чым 100 гадоў таму назад П.Пракаповіч, стараючыся развязаць пытаньне пажытку для пчол, першы паміж усімі пчалярамі зарганізаваў найбольшую ў сьвеце плянтацыю медадайных расьцін, якая займала 53 тысячы гэктараў зямлі. На ёй гадаваў ён розныя мядадаі, як грэчку, дзяцеліну, чабор, маліны, розныя гатункі кленаў, агрэст, розныя вербы, асацец і шмат іншых. Асаблівую увагу зьвярнуў П.Пракаповіч на асацец /Echium Vulgare/, бо прыдаваў яму вялікае значэньне і на сваей плянтацыі меў яго аж 30 тысяч дзесяцін.

Пры сваей пчалярскай школе П.П. завёў першую дасьледчую станцыю, дзе рабіў досьледы над медаваньнем расьцін. Ён надзвычайна дакладна ацэніваў вартасьць гэтых расьцін, што да іх медадайнасьці і студыяваў уплывы атмасфэры на выдзяленьне нэктару /салодкага соку/ ў кветках.

/"Пчолярство" 1925 г./

- Гэта было 100 гадоў таму назад. А ў нас сягодня як-жа шмат пчаляроў гэтым пытаньнем зусім ня цікавіцца. - А трэба, трэба дзеля ўласнай карысьці.

**VI Усеславянскі Пчалярскі Кангрэс і выстаўка у Югаславіі.** 25 жніўня ў вечары Усеславянскі Зьезд пачаўся супольнай вячэрай. - Дня 26 ў Белградзкім Унівэрсытэце наступіла афіцыяльнае адчыненьне Зьезду і выстаўкі. Дня 27 - прачытана каля 20 розных рэфэратаў па пчалярству. Найцікавейшыя з іх наступныя: 1/. Праф. А.Шэнфэльда /Пчаляр. Інстытут у Ч.С.Р./ - Рацыяналізацыя пчалярства на падставе досьледаў. 2/ Праф. Унівэрс. Др. Барывой Мілоевіч /Белград/ - Пра культуру матак. 3/ Др. С.Саўдек /рэд. "Пчалы Мараўскай/ - Заменнікі пылку. 4/ Др. Сіма Гразданіч - Жыцьцё пчалы ад нараджэньня аж да сьмерці. 5/. Др. Лео Грібар - Заразныя хваробы і лячэньне іх. 6/. Др. вэтэр. Я.Ратіж /Ч.С.Р./ - Нозема акароза /пчаліная хвароба/. 7/ С.Мутафчиев /ад кооп. Нектар - Баўгарыя/ - Спажыўныя ўласьцівасьці мёду. 8/. І.Іовановіч /Югаславія/ - Аб медадайных расьцінах. 9/ Др. інж. І.Свобода /Ч.С.Р./ - Гаспадарская прадукцыя воску.

Пасьля рэфэратаў наступілі бягучыя справы, а пасьля былі прыняты рэзалюцыі:

1. Наступны VII Усеславянскі Кангрэс адбудзецца ў Баўгарыі. Да новай Рады Усесл. Зьезду выбралі: Баўгараў - Старшыня - С.Мутафчіев /Лекар Каралеўскага Двара/, заступнік - старшыні І.Валачэў /аграном баўгар/, сябры: - Д.Дімітроў, Дончэў і Ілічэў; з Югаславянаў: - Сьветазар Джоржэвіч, І.Іовановіч /рэд. Пчаляра/ і І.Вербіц; з Польшчы: - С.Ежуско /рэд. Пчаляра Польскага/, інж. Паўлоўскі і інсп. лясьн. Іван Марцінкаў - як прадстаўнік украінскіх пчаляроў з Галіччыны, ды адзін з арганізатараў Усеславянскіх Кангрэсаў.

2. Зьезд утварыў камісію дзеля выданьня Навукова-дасьледчай славянскай часопісі. Старшыня камісіі - Др. вэтэр. Я.Ратіж /Чэх/ і сябры: праф. унівэр. Др. Барывой Мілоевіч, Др. Л.Грыбар і Др. Сіма Гразданіч /Югаславяне/, Др. Анна Маўрыцыё /з Бэрну/, Мг. Ядвіга Гудэрска /з Пулаў/, Др. Дрэноскі, Др. Дончэў /з Софіі/, Др. А.Шэнфэльд, Др. С.Соўдэк і Др. К.Новацкі /з Ч.С.Р./.

Гэтая-ж камісія мае апрацаваць і усеславянскі тэрміналягічны пчалярскі слоўнік.

3. Пчаляры павінны рупіцца аб распаўсюджываньні медадайных расьцін; пажадана, каб усе пчаляры працавалі на падставе супольнага пчалярскага права і каб была уведзеная супольная страхоўка пчол у ўсіх славян.

Учасьнікаў на Зьезьдзе было: з Чэхаславаччыны - каля 80, з Баўгарыі - 50, з Польшчы - 3. Найбольш, зразумела, было сэрбаў, славэнцаў і харватаў. Прадстаўнікоў іншых славянаў ня было.

Выстаўляла на выстаўцы розных экспанатаў 623 асобы.

/паводле "Украінскага Пасічніка"/

| |
|---|
| Калі хочаш мець ад свайго пчальніка найбольшую карысьць, дай сваім пчолам бясперарыўны пажытак - сей і садзі медадаі. |

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Вёска Нова-Свідзілаўка,Сакольскага пав. У нас цяпер пашла мода на пчалярства. Кожны з кім ня сустрэнься ў Беластоку,Саколцы ці Крынках заводзе гутарку аб пчалярстве,цікавіцца якая сыстэма вульлёў найдапаведнейшая. Дагэтуль наагул у нас іншых сыстэт як Варшаўскай ніхто ня знаў; цяпер пачалі рабіць -Дадана ўскія і Зьвёнзковыя /польскія/. -Я гадую пчолы ў Варшаўскіх удасканаленых і зьвёнсковых ашклёных. -Сёлета з зімы пчолы вышлі даволі добра.Пазьнейшыя грады згубілі шмат вылецеўшых у поле пчол,аднак да галоўнага медабраньня семі зноў направіліся. Няпрарнуўныя ў працягу трох тыдняў дажджы ня давалі пчолкам вылецець з вульля, і толькі пазьнейшая пагада умажлівіла пчолам сабраць трохі мёду з верасу. І так,агульны стан медазбору ніжайсярэдняга. -Цэны на мёд былі ад І.60 да 2 зл. Цяпер можна прадаць і даражэй. -Найгорай у нас справа з вузой. Нашы пчаляры пагаварваюць,каб залажыць якісь коопэратыў у Крынках,ды набыць вальцы. Ахвочых да гэтага знаходзіцца пакуль што 20-25 чалавек.

Малады пчаляр.

Гміна Гарадэчна пав.Наваградзкі. Пчалярства ў нашых ваколіцах знаходзіцца ў ня вельмі памысным палажэньні. Большасьць нашых пчаляроў гэта пчаляры-аматары,каторыя,ня дбаючы аб даход,гадуюць свае пчолы ў калодах. Ёсьць,праўду сказаць, таксама пчалярства прамысловае,але з гэтакім можна спаткацца толькі ў фальварках/або ў вялізарных дварох. Праўда спатыкаюцца і па вёсках пчаляры,каторыя гадуюць свае пчолы ў вульлях Лявіцкага,але большасьць з іх ня ведае нават што ёсьць вуза,а аб гадоўлі медадайных расьцін і гутаркі няма. Так што шмат трэба яшчэ часу,каб наш пчаляр зрабіўся пчаляром-прамыслоўцам. -Сёлета вызімавалі пчолы ў нашых ваколіцах зусім памысна. Толькі ў часе веснавых халадоў у многіх пчалярроў вельмі шмат вульлёў адмёрла з голаду,бо аб падкормцы ня толькі спэкулятыўнай,але нават і звычайнай, у нас і ня думаюць. -Ліпы ў нас у гэтым годзе можна сказаць не цьвялі зусім. Найбольш скарысталі пчолы з дзяцялін і грэчкі. Вульлей Лявіцкага,пры дастатку вузы, даў у сярэднім наІ2-І5 кіляграмаў мёду.

## Х Р О Н І К А.

Ц э н ы н а м ё д. У Вільні ў апошнія часы плоцяць у гурце па Ізл.80 гр. - 2 зл. за кгр.,у дэталічнай прадажы -2зл.40 гр. У Львове плоцяць за грычаны па І зл.50 гр. за ліпавы і цьвяточны -па Ізл.90 гр. - 2 зл.

Ц э н ы н а з ё л к і. Кветкі: Шанты -4 зл.,румянкі -І.50,васілька -І.50, Дзяванны -2.50.сухавейкі -40 гр.; з е л ь л е: расічка-2.50 цэнтурня -І.50;к а р э н ь н е: аер -30 гр.,дзеравянка -60 гр.пырнік 25 гр панчошнік -60 гр.малачая -75 гр.,жывакосьніка -60 гр.валерьяна -І.50; я г а д ы: маліна -2 зл.,рабіна -40 гр.,ялавец -25 гр.; пылок дзеразы -3 зл. Цэны пададзены за І кгр.за тавар першай якасьці.

Ц у к а р д л я п ч о л. "Związek Izb i Organizacji Rolniczych" робіць захады перад Міністэрствам Скарбу ў справе павялічэньня нормы дэнатурав.цукру дзеля падкормліваньня пчол. -Зьвёнзак сьцьвярджае неабходнасьць павялічэньня нормы з 2 кгр.на 5 кгр.у год на адну пчаліную сямью У гады асабліва цяжкія прапанаваная норма павінна падняцца да 8 кгр. Міністэрства Скарбу адказу у гэтай справе яшчэ ня дала. /Пчаляр Польскі/

"У к р а і н с к і П а с і ч н і к" а б "Б е л . Б о р ц і". У № ІО "Укр.Пасічнік" падае вестку аб выхадзе ў сьвет І-го нумару"Бел.Борці". -Пасьля пераліченьня зьмешчаных артыкулаў чытаем: "Зьмест часопісі паважны. Артыкулы цікавыя.....,што абяцае даць беларускім пчалярам пэўнасьць разьвіцьця іх часопісі дзеля дабра народнага пчалярства. Абдуманае злучэньне пчалярства з лекарскімі зёлкамі -ідэальнае. Беларусь -гэта край,дзе земляробская культура яшчэ не накінула сваіх вымаганьняў,не папсавала,як у нас,прыроднай цэласьці,дзе яшчэ рай для жывёлагадоўлі,пчалярства,дзе можна вагонамі зьбіраць лекарскія зёлкі,ягады,грыбы, толькі трэба,каб народ зразумеў,якія скарбы кругом сябе мае.Дзеля выкарыстоўваньня гэтага прыроднага багацьця ў першую чаргу патрэбна фахован асьвета.Думаем,што ініцыятыва "Пчалы" шчасьлівая і шчыра народная,таму маем надзею, што затрыманьня ў пашырэньні фаховай асьветы сярод пчалярроў ня будзе. Слава беларускім пчалярам! -Нашым пчалярам з Палесься,Холмшчыны і Падляша радзім часопісяй "Бел.Борць" зацікавіцца дзеля сваей карысьці!"

-"Украінскаму Пасічніку" за прыхільныя словы шлем шчырае "дзякуй".

 2-07254

# Паштовая скрынка.

Гр.А.Беламу. Падпіску атрымалі.Дзякуем.Бел.Борцъ будзем высылаць акуратна.Што тычыцца мёду,то высылайце яго ўсю колькасьць адразу.Можам заплаціць так як пададзена у цэньніку. Перасылку аплоцім мы. Перасылаць найлепш у ліпаўцы /кадоўбчыку/,або ў звычайнай бочцы,але гэта залежыць таксама ў чым Вы яго маеце.Сцукраванага мёду перакладаць ня варта.Чакаем

гр.М.Пракопчыку. Карэспандэнцыю Вашу зьмяшчаем.Пішыце больш.Цікава было-б ведаць,як Вам удаецца гаспадарка ў ашклёных вульлях.Падзяліцеся вынікамі з чытачамі "Бел.Борці". -Закладаць новага Т-ва ня варта,дзеля вялікіх клопатаў у зьвязку з новым коопэр.законам.Радзім запісацца ў сябры "Пчалы" і адчыніць у сябе ў Крынках гандлёвы пункт-краму пад фірмай "Пчалы"."Пчала" будзе старацца даставіць Вам усё патрэбнае. -Вальцаў мы ў сябе ня маем. -У Вільні можна дастаць за 450-400 зл.,але нажаль толькі за гатоўку. Можа даведаемся аб іншай магчымасьці -тады паведамім.

гр.П.Гапанёнку. Падпіску атрымалі.Дзякуем. -Паводле апошніх запатрабаваньняў на лекарскія зёлкі бачым,што ў гандлі краёвым і на вываз заграніцу патрэбныя вялікія колькасьці кветак румянкі і нагатка,насеньня аніку,календры і італьянкага кропу,а таксама мяты і лекарскае шалвеі. На адзін ці пару з гэтых артыкулаў Вы бы маглі зьвярнуць увагу.

гр.В.Каласоўскаму. -Т-ва"Пчала" купляе ўсе зёлкі. Календар зборкі і цэны падаем у кожным нумары "Бел.Борці".

гр.Е.Мамчыцу. Адказ на Вашае пісьмо знойдзеце у перадавіцы гэтага нумару.

гр.А.Шайко. Дэкларацыі "Пчала" Вам выслала. Што тычыцца справы аддзелу,прачытайце адказ гр.М.Пракопчыку. Чакаем падпіскі з Маладэчна.

гр.А.Сувалка. Пробны нумар высылаем,на далейшыя чакаем падпіскі.

Інж.А.Сепруновічу. "Бел.Борць" высылаем Вам з І-га нумару.

гр.І.Галушка. Названыя зёлкі Т-ва "Пчала" ахвотна купіць;цэны пададзены у гэтым.нумары. "Бел.Борць" высылаем з І-га нумару;Чакаем падпіскі.

гр.І.Кавальчуку. Пробны нумар высылаем.

Украінскай Гаспадарскай Акадэміі ў Чэхаславацкай Рэсп. Шчыра дзякуем за Вашыя цэнныя пажаданьні. "Бел.Борць" высылаем. За "Вісті У.Т.Г.І. будзем вельмі удзячны. У справе кантакту і супрацоўніцтва дамо лістоўны адказ.

гр.А.Шэйна і усіх зацікаўленых справай арганізацыі збору зёлак і варункамі аплаты паведамляем,што Т-ва "Пчала" гэтыя пытаньня якраз цяпер распрацоўвае. Вынікі падамо на старонках "Бел.Борці".

гр.Улад.Шэўчыку, Мёд Т-ва "Пчала" можа купіць. Прышліце пробку. Калі тавар будзе адпаведны,падамо цану і варункі дастывы. Аб карысьцях сяброўства у Т-ве "Пчала" даведаецеся з гэтага нумару.

Ад Канторы Беларускай Борці. У сувязі з тым што многія з Паважаных пчаляроў не пасьпелі яшчэ прыслаць падпіскі,пазваляем сабе некатарым з ніх,на падпіску якіх спадзяемся, выслаць гэты нумар.









Выдавец - Рэдактар. Л.Войцікава